| №№ па парадку | Назва форм справаздачнасці | Спосаб адсылкі справа-здачнасці | №№ форм | За які перыяд складаецца справаздач. | Хто складае справазд. | Каму прадстаўляецца справаздач. | Тэрмін адсылкі | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | Звесткі аб выдатку і астачах асноўных відаў сыравіны на складзе | Поштай | № 8 НКЦП | За месяц | Прадпрыемства | Кір. Ніз. Пр. Райкамбін. | На 6-ты дзень | — |
| | Звесткі аб вывазцы торфу | „ | Агульн. фор. па Нарком. | За пяцідзёнку | „ | „ | На другі дзень | — |
| | **II. Сабекаштоўнасць** | | | | | | | |
| 1 | Тэрміновае данясенне аб сабекаштоўнасці прад. | „ | 15-ОБ | За месяц | „ | Райкамбін. Кір. Ніз. пр. | На 15-ты дзень | — |
| 2 | Звесткі аб фабрычназав. сабекаштоўнасці ўсей sраўнімай валавой прадук. па арт. калькуляцыйн. лісту. | „ | 16-ОБ | За кварт. | „ | „ | „ | — |
| | **III. Збыт** | | | | | | | |
| 1 | Звесткі аб руху гатовай прадукцыі (адгруз.) | „ | Ф. 13 НКЦП | За месяц | „ | Райкамбін. Кір. Ніз. Пр. | На 5 дзень | — |
| | **IV. Капітальнае будаўніцтва** | | | | | | | |
| 1 | Выкананне плана капітальных работ | „ | Ф. 13 | „ | „ | „ | „ | — |
| 2 | Справаздачная картка аб здачы капіталаўкладан. у эксплоатацыю | „ | „ | За кварт. | „ | „ | 1 чысла другогам-цапасля справ. кв. | — |
| | **V. Труд** | | | | | | | |
| 1 | Справаздачная картка па ўчоту труда і зарплаты ў цэнзавай прамысловасці | „ | № 1-а | За месяц | „ | Райкамб. Кір. Ніз Пр. і Райінсп. УНХУ | Праз 15 дн. | — |
| 2 | Справаздача аб колькасці работнікаў і фондах зарплаты ў установе | „ | № 8 | За кварт. | Райкамбінат | Кір. Ніз. Прамысл. | Праз 10 дн. | — |

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | Справаздачная картка па ўчоту труда і зарплаты нізавой прамысловасці | Поштай | № 1-б | За месяц | Прадпр. і Раймель-трэсты | Кір. Ніз. Пр. Райкамбін. і Райінспект. УНХУ | Праз 15 дн. | — |
| | **VI. Спецыялізіраваныя формы Тарфяная** | | | | | | | |
| 1 | Формы справаздачнасці ўстаноўленыя для тарфяной прамысловасці Наркаммясцпрома | — | — | — | — | — | — | — |
| | **VII. Будматэрыялы** | | | | | | | |
| 1 | Фврмы справаздачнасці, устаноўленыя для прадпрыемств вытворчасці будматэрыялаў | — | — | — | — | — | — | — |
| | **VIII. Млыны** | | | | | | | |
| 1 | Тэрміновае данясенне аб выкананні плана па пераапрацоўцы зярна і памольнага збору | Поштай | № 2-М | За месяц | Раймель-трэст | Кір. Нізавой прамысл. і РайУНХУ | На 5-га чысла | — |
| 2 | Кароткая справаздача падсобнага вытворчага прадпрыемства аб выкананні плана па вытворчасці і труду | " | Замен. тыпав. форм. № 8 НКЦП | " | " | Упраўленне Нізав. Прам. і РайУНХУ | 5 чысла наступн. за справаздач. месяца | — |
| 3 | Картка ўчота аперацый па адкорму ската | " | " | " | " | " | 10-га наступнага за справ. месяца | — |

Кіраўнік спраў Совета Народных Камісараў БССР *І. Лук'янчык*

# II. РАБОТА КНГУ І ЯГО СІСТЭМЫ

## Якія матэрыялы павінны быць перададзены райінспектурам уноў арганізаваных раёнаў

### 1. Па насельніцтву

1. Па натуральнаму руху насельніцтва.

а) За 1935 г. інспектуры штомесячна атрымоўвалі ад раённага аддзела НКВД зводкі ф. 8—1 аб колькасці нарадзіўшыхся, памершых, бракаў і разводаў у межах сельсоветаў. Па іх выбраць даныя па сельсоветах, адышоўшых да новых раёнаў.

б) За 1933 г. і 1934 г. у інспектуры даныя паступалі непасрэдна ад сельсоветаў штомесячна. Па іх скласці гадавыя зводкі па кожнаму сельсовету паасобку.

2. Па колькасці едакоў.

а) За 1933 і 1934 гады з матэрыялаў учота аб'ектаў абкладання выбраць колькасць едакоў па кожнаму з адышоўшых сельсоветаў.

б) За 1935 г.—выборка з матэрыяыаў перапісу жывёлы на 1/I-1935 г.

### II. Па прамысловасці

Новым раёнам інспектары наргасучота перадаюць па адышоўшым сельсоветам наступныя матэрыялы:

1. Бланкі па гадавому абследванню работы прамысловасці за 1934 г.—цэнзавай, РВК, прамысловасці мінеральных будматэрыялаў і электрастанцый г. зн. запоўненыя і праверамыя бланкі „Ц", „М" і „Э".

2. Бланкі рэгістрацыі прамысловасці соцыялістычнага сектара за 1933 г. г. зн. бланкі № 1, 2, 3 і 5.

3. Бланкі па абследванню цэнзавай прамысловасці за 1932 г. (бланкі „В").

4. Пашпарты рэгістрацыі прамысловасці соцсектара па становішчу на 1/VII-1932 г.

Папярэдне па ўсім гэтым матэрыялам павінны быць складзены спісы прадпрыемств, якія адышлі да новых раёнаў і спісы прадпрыемств, якія засталіся ў раёне, копіі гэтых спіскаў дасылаюцца ў промсектар КНГУ.

Калі райінспектурай складаліся па вышэйпаказаным работам якія-небудзь зводкі, то павінен быць складзен пералік гэтых зводак, копія якога дасылаецца ў промсектар. Інспектура наргасучота неадкладна арганізоўвае пералік гэтых зводак па застаўшымся ў раёне матэрыялам.

Матэрыял за 1934 г. перадаецца па сканчэнню работы па гадавому абследванню, але не раней 10 красавіка; увесь астатні матэрыял перадаецца пасля складання спісаў і прывядзення яго ў парадак па актам, копія якога дасылаецца ў КНГУ.

## III. Па будаўніцтву

Унод арганізаваным раёнам павінен быць перададзен наступны матэрыял:

Па рэгістрацыі буд-ва ўсе карткі на зарэгістраванае буд-ва пачыная з 1933 г. па дзень перадачы.

Увесь матэрыял па адначасовым работам, па ўчоту фактычнага буд-ва, правадзіўшымся да 1933 г.

Перадача матэрыяла па рэгістрацыі буд-ва павінна быць вытварана толькі пасля поўнай арганізацыі новай інспектуры, бо згодна ўказанняў ЦУНХУ і КНГУ БССР уся адказнасць за правадзімую зараз рэгістрацыю буд-ва закончанага ў 1934 г. і пераходзячага на 1935 г. цалкам ляжыць на райінспектарах старых раёнаў.

## IV. Па сельскай гаспадарцы

1. а) Матэрыялы Чэрвеньскага ўчота жывёлы за гады: 1932-33-34 гг.

б) Матэрыялы кантрольных абходаў двароў за 1934 г.

в) Учот жывёлы ў дзяржкаапсектары за 1933 і 34 гг. (первічны матэрыял).

2. Увесь первічны матэрыял і с/совецкія зводкі па студзеньскаму перапісу жывёлы 1935 г.

3. Пасеўныя плошчы па культурах у с/совецкім і сектарыяльным разрэзах за 1932-33-34 гг.

4. Ураджайнасць усіх культур у с/совецкім і сектарыяльным разрэзе.

5. Карткі (первічныя) па квартальнаму ўчоту прадукцыі жывёлагадоўлі на калгасных таварных фермах (раёны, якія павінны здаць матэрыялы ўноў арганізаваным раёнам).

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Полацк . . | МТФ | | Мсціслаўль . | СТФ |
| Лепель . . | „ | | Слуцк . . . | „ |
| Лёзна . . . | „ | і АТФ | Карма . . . | „ |
| Чаусы . . . | „ | | Церахоўка . . | „ |
| Бялынічы . . | „ | | Орша . . . | „ |
| Копыль . . | „ | і СТФ | Бабруйск . . | „ |
| Клімавічы . . | „ | | Узда . . . | „ |
| Мозыр . . . | „ | | Гарадок . . | АТФ |
| Віцебск . . | „ | | Сенно . . . | „ |
| Гомель . . . | „ | | Ветка . . . | „ |
| Ст. Дарогі . | „ | | Барысаў . . | „ |
| Касцюковічы . | СТФ | | Быхаў . . . | „ |
| Крупкі . . . | „ | | | |

## Становішча первічнага ўчота ў сельсоветах па раёнам на 1 красавік

| №№ п. п. | Раёны | Колькі с/с абслед. | Якасць учота ў с/с | | | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Добра | Здавальн. | Дрэнна | |
| 1 | Бабруйск | 28 | 13 | 11 | 4 | |
| 2 | Барысаў | 24 | — | 20 | 4 | Сакратар с/с знят з работы і аддан пад суд |
| 3 | Бешанковічы | 21 | — | 14 | 7 | |
| 4 | Брагін | 5 | — | 2 | 3 | |
| 5 | Бялынічы | 18 | 5 | 9 | 4 | |
| 6 | Багушэўск | 13 | 5 | 2 | 6 | |
| 7 | Бярэзіна | 18 | 4 | 1 | 13 | |
| 8 | Ветка | 12 | 8 | 3 | 1 | |
| 9 | Горкі | 13 | 11 | — | 2 | |
| 10 | Дрыса | 3 | — | — | 3 | Пастанова РВК |
| 11 | Дуброўна | 2 | 1 | 1 | — | |
| 12 | Ельск | 13 | 9 | — | 4 | |
| 13 | Клімавічы | 13 | — | 4 | 9 | „ „ |
| 14 | Крычаў | 11 | 11 | — | — | |
| 15 | Лельчыцы | 12 | 5 | 7 | — | |
| 16 | Лезна | 12 | 1 | 9 | 2 | |
| 17 | Карма | 17 | 17 | — | — | |
| 18 | Лоеў | 16 | 13 | 2 | 1 | „ „ |
| 19 | Любань | 9 | 1 | — | 8 | |
| 20 | Мозыр | 24 | — | 24 | — | |
| 21 | Мсціслаў | 6 | 2 | 4 | — | |
| 22 | Нароўля | 16 | 13 | 3 | — | |
| 23 | Парычы | 23 | 5 | 16 | 2 | |
| 24 | Плешчаніцы | 13 | 8 | — | 5 | |
| 25 | Петрыкаў | 12 | 4 | — | 8 | |
| 26 | Рэчыца | 32 | 11 | 13 | 8 | |
| 27 | Сенно | 10 | 4 | 6 | — | |
| 28 | Сураж | 8 | 8 | — | — | |
| 29 | Ст. Дарогі | 11 | 3 | 4 | 4 | |
| 30 | Сіроціна | 11 | — | 9 | 2 | |
| 31 | Тураў | 6 | 6 | — | — | |
| 32 | Уваравічы | 28 | 1 | 13 | 14 | |
| 33 | Узда | 7 | — | 4 | 3 | |
| 34 | Ушачы | 5 | 3 | 2 | — | |
| 35 | Хоцімск | 6 | 6 | — | — | |
| 36 | Хойнікі | 22 | 10 | 10 | 2 | |
| 37 | Церахава | 6 | 2 | — | 4 | |
| 38 | Чачэрск | 23 | 16 | 6 | 1 | Сакратар с/с перадан пракурору |
| 39 | Чашнікі | 15 | 12 | 3 | — | |
| 40 | Чаусы | 18 | 14 | 4 | — | |
| 41 | Чырвонаполле | 6 | 3 | — | 3 | |
| 42 | Чырв. Слабада | 8 | — | 1 | 7 | |
| 43 | Чэрыкаў | 14 | 10 | — | 4 | |
| 44 | Шклоў | 15 | 12 | — | 3 | |
| 45 | Гомель | 19 | 10 | 1 | 7 | |
| 46 | Віцебск | 13 | 9 | 1 | 3 | |
| | Усяго з абсл. 46 раён. | 637 | 276 | 210 | 151 | |

**Раёны, у якіх не праведзена праверка сельсовецкага ўчота**

1. Асіповічы
2. Асвея
3. Быхаў
4. Б. Кашалева
5. Бягомль
6. Ветрына
7. Гарадок
8. Глуск
9. Дрыбінск
10. Добруш
11. Дзяржынск
12. Жыткавічы
13. Заслаўль
14. Камарын
15. Касцюковічы
16. Клічаў
17. Крупкі
18. Лагойск
19. Лепель
20. Менск (раён)
21. Магілеў
22. Мехаўск
23. Полацк
24. Прапойск
25. Пухавічы
26. Рагачоў
27. Расоны
28. Слуцк
29. Старобін

---

## Пастанова № 137/7

### Прэзідыум Копыльскага Раённага Выканаўчага Камітэта

*ад 6/III-1935 г.*

Слухалі: Вынікі праверкі пастаноўкі первічнага ўчота па с/советам раёну (пастанова прэзідыуму РВК ад 19/XI-34 г.) (Дакладчык Райінспектар НГУ тав. Барысаў).

Пастанавілі: Прыдаючы надвычайную важнасць справе вядзення ў с/советах первічнага ўчота, з'яўляючагася асноўным дапаможнікам аперацыйнага кіраўніцтва с/советам і кантролем выканання народна-гаспадарчага плана. Прэзідыум РВК адзначае што большасць с/советаў (11 з 17 праверáных: Сл. Кучынскі, Ст. Капыльскі, Старыцкі, Лешнянскі, Браткаўскі, Крываселкаўскі і інш.) гэтую важнасць уяснілі, зрабіўшы некаторыя зрухі ў наладжванні ўчоту. Побач з гэтым маюцца с/советы (Прускі, Копыльскі, Быстрыцкі і інш.), якія злачынна ігнарыруюць пастановы ўрада і указанні РВК па справе ўчота.

Выходзячы з гэтага Прэзідыум РВК пастанаўляе:

1. Прапанаваць старшыням сельсоветаў неадкладна, забяспечыць поўнае завядзенне пагаспадарчых кніг (форма № 2-а і 2-б), зрабіўшы належную падрыхтоўку кніг па аперацыйнай справаздачнасці к веснаваму севу (форму № 18).

Райза забяспечыць с/советы кнігамі ўчота.

2. Катэгарычна напомніць с/советам, што за ўсякае прадстаўленне справаздачных даных па незацверджаным формам яны нясуць адказнасць нараўне з патрабуючай арганізацыяй.

Папярэдзіць нам. дырэктара МТС т. Гутцайта і заг. Райза тав. Яцкевіча, што пры паўторным выяўленні і патрабаванні даных па незацверджаным формам, справа аб іх будзе перадана пракурору.

3. Адзначыць, што раённыя арганізацыі, звязаныя з прадстаўленнем с/советам, дакументацый па выкананню абавязацельств паасобнымі гаспадаркамі і калгасамі (заготарганізацыі, дорадзел і інш.), а таксама ўстановы, патрабуючыя ад сельсоветаў справаздачнасць (Райза, Райфа і інш.) пры наведванні с/советаў не зварачваюць належнай увагі наладжванню і кантролю за пастаноўкаю ўчота. Паралельна з адказнасцю с/советаў за пастаноўку первічнага ўчота ўстанавіць адказнасць кіраўнікоў аддзелаў РВК і раённых установ за пастаноўку ўчота ў с/советах па сваім галінам работы.

4. Адзначыць, што с/советы не вытрымліваюць урадавых тэрмінаў прадстаўлення справаздачнасці і якасць звестак нізкая. Абавязаць сакратароў с/советаў не радзей аднаго раза ў месяц склікаць нарады рахункаводаў калгасаў, на якіх абгаварваць пытанні аперацыйнай справаздачнасці і ўчота. Папярэдзіць старшынь с/советаў, што за ўсякае парушэнне тэрмінаў, асабліва ў час веснавога сева, уборачнай і г. д., прэзідыум РВК будзе разглядваць, як зрыў гаспадарча-палітычных кампаній.

Абавязаць старшынь с/советаў абавязкова пацвярджаць пісьмовымі зводкамі тэлефоныя зводкі па веснавому севу, дасылаючы пацвярджаючыя зводкі нарочным ва ўстаноўленыя тэрміны.

5. Апошні раз папярэдзіць дырэктара канторы Маслапром тав. Кукова, што за непадачу малако-заводамі месячных даных аб паступленні малака ад паасобных гаспадарак с/советам справа будзе разглядвацца як патуранне зрыва малако-паставак.

6. Папярэдзіць сакратара Копыльскага м/с. т. Дзічкоўскага, Быстрынскага т. Кунцэвіча, што далейшае зацягненне справы наладжвання ўчота з'яўляецца недапушчальным абавязаць іх завесці поўны ўчот да 20-га сакавіка, папярэдзіўшы іх аб адказнасці за невыкананне ва ўстаноўлены тэрмін.

У адносінах становішча первічнага па Прускаму с/совету прымаючы пад ўвагу заяву старшыні с/совета тав. Ермалаева прапанаваць райінспектару НГУ тав. Барысаву непасрэдна вытварыць праверку пастаноўкі первічнага ўчота па гэтаму сельсовету і аб выніках далажыць Прэзідыуму РВК.

*Старшыня РВК Рубен*

*Сакратар Шчэрбоцэвіч*

---

# Пастанова

## Прэзідыума Талачынскага Раённага Выканаўчага Камітэта

*ад 28/III 1935 г.*

**Аб становішчы першапачатковага учота ў с/советах Талачынскага раёна.**

Пры праверцы ўчастковымі інспектарамі НГУ становішча первічнага ўчота ў с/с. на 1935 г. устаноўлена, што па раду с/с: Рыдамльскім, Коханаўскім, Скуратаўскім, Азерацкім, В. Гарадзецкім, Сіманаўскім і інш. учот вядзецца добра. Усе кнігі первічнага ўчота заведзены, своечасова робяцца адзнакі аб выкананні плана здачы дзяржаве мяса, малака, паступлення культзбора, становішча жывёлагадоўлі і інш. Як старшыні, так і сакратары гэтых с/с. з поўнай адказнасцю выконваюць пастанову СНК аб першапачатковым учоце ў с/советах.

Побач з гэтым цэлы шэраг с/с. (Воўкаўскі, Аленаўскі, Навасельскі і інш.), недаацэньваюць справу ўчота, несвоечасова робяць у кнігах адзнакі аб выкананні плана малакапаставак, паступлення культзбора і інш.

Дрэнна пастаўлен учот у Талачынскім м/совеце.

Зусім не заведзен учот у Палюдаўскім с/совеце. Не гледзячы на пастановы СНК СССР і БССР, Прэзідыума РВК і шэраг папярэджанняў з боку НГУ, учот на 1935 г. па кнігам ф. № 3 вядзецца часткова, а кнігі ф. № 4, 2-а і 2-б не заведзены, кнігі формы № 2-а для калгаснікаў нават яшчэ не атрыманы.

У 1934 г. у Палюдаўскім с/с. учот быў таксама пастаўлен дрэнна, што не дае магчымасці гэтым с/с. мець яскравы малюнак выканання той альбо інш. гаспадаркай сваіх абавязкаў перад дзяржавай і аперацыйна кіраваць праводзячыміся гаспадарча-палітычнымі кампаніямі і своечасова прымаць меры ўздзейнічання на ўхіляючыхся, а таксама даваць своечасова і добраякасныя звесткі па ўстаноўленай справаздачнасці—раённым арганізацыям.

Выходзячы з чаго, Прэзідыум РВК—п а с т а н а ў л я е:

1) За поўнае ігнарыраванне пастановы СНК і РВК па завядзенню первічнага ўчота—Сакратара Палюдаўскага с/с. тав. Р а м а н ч у к а з работы зняць і аддаць пад суд.

Старшыні Талачынскага М/совета т. Т у п і ц ы абвясціць вымову.

Папярэдзіць старшыню Палюдаўскага с/с. т. Н а р ч у к а, што калі з яго боку будуць праяўляцца ліберальныя адносіны да справы ўчота—да яго будуць прыняты суровыя меры пакарання.

2) Абавязаць старшыню Палюдаўскага с/с. т. Н а р ч у к а, старш. Талачынскага М/с. Т у п і ц у на працягу 3-х дзён забяспечыць поўнае завядзенне первічнага ўчота па ўсім формам, а інспектару НГУ праверыць выкананне гэтай пастановы.

3) Папярэдзіць старшынь усіх с/с, што адказнасць за своечасовае вядзенне зацверджанага першапачатковага ўчота ўскладзена пастановай СНК асабіста на старшынь с/советаў.

4) Абавязаць старшынь усіх с/советаў, у якіх учот пастаўлен нездавальняюча, забяспечыць поўнае завядзенне ўчота па ўсім сектарам і формам на працягу 3-х дзён і ў далейшым своечасова рабіць адзнакі па ўсім паказчыкам і своечасова прадстаўляць у раённыя арганізацыі трэбуемыя звесткі па зацверджаным формам.

5) Прапанаваць інспектару НГУ рабіць кожную дэкаду праверку становішча ўчота ў с/с. і дакладваць Прэзідыуму РВК.

Старшыня Райвыканкома *Конікаў.*

Сакратар *Васілеўскі.*

---

## Пастанова

### Прэзідыума Сіроцінскага Райвыканкома

*ад 7/III 1935 г.*

### Аб первічным учоце ў сельсоветах

Адзначыць, што шляхам праверкі ўчастковымі інспектарамі НГУ становішча первічнага ўчота па Спаскаму, Обальскаму і Амбросаўскаму сельсоветам устаноўлена, што ў гэтых сельсоветах да гэтага часу кнігі первічнага ўчота не заведзены ў той час, калі згодна Пастановы СНК БССР ад 8/XII 34 г. і Прэзідыума РВК ад 28/XII 34 г. увядзенне первічнага ўчота ў сельсоветах павінна быць скончана ў студзені месяцы.

Выходзячы з гэтага Прэзідыум РВК п а с т а н а ў л я е:

1. Абавязаць старшынь—Спаскага, Обальскага і Амбросаўскага с/с. забяспечыць поўнае ўвядзенне кніг первічнага ўчота ў сельсоветах да 15-га сакавіка 1935 г. і на чарговым паседжанні Прэзідыума РВК заслухаць даклады старшынь сельсоветаў—Спаскага і Амбросаўскага з садакладам Райінспектара НГУ, аб правядзенні первічнага ўчота.

2. Абавязаць усіх старшынь сельсоветаў праверыць справу ўвядзення первічнага ўчота і забяспечыць сканчэнне гэтай работы да 15/III 35 г.

3. Папярэдзіць усіх старшынь сельсоветаў, што за недаацэнку і ігнараванне справы первічнага ўчота яны будуць прыцягнуты да суровай адказнасці згодна пастановы СНК БССР ад 8/XII 34 г.

4. Даручыць Інспектуре НГУ на працягу сакавіка месяца праверыць усе сельсоветы па пытанню первічнага ўчота і вынікі праверкі далажыць Прэзідыуму РВК.

Старшыня РВК *Кабыш.*

ЧВА. Сакратара РВК *Кляцко.*

## Пастанова

### Прэзідыума Лоеўскага РВК

*ад 30/III 35 г.*

### „Аб спрашчэнні ўчота і справаздачнасці сельсоветаў і калгасаў"

Адзначаючы, што некаторыя аддзелы РВК як-та: РайЗА, РайАНА, РайФА і др. раённыя арганізацыі спускаюць с/советам і калгасам цэлы рад незацверджаных ЦУНХУ форм, чым груба парушаюць пастанову ўраду аб спрашчэнні ўчоту і справаздачнасці с/с і калгасаў, Прэзідыум РВК пастанаўляе:

1. Абавязаць усіх загадчыкаў Аддзелаў РВК і ўсе астатнія раённыя арганізацыі патрабаваць ад с/советаў і калгасаў звесткі па зацверджаным формам ЦУНХУ

2. Указаць усім Загадчыкам Аддзелаў РВК і раённым арганізацыям пры спуску форм с/советам і калгасам абавязкова мець дазвол ад інспектара НГУ і без дазволу апошняга форма не павінна быць спушчана.

3. Папярэдзіць усіх загадчыкаў Аддзелаў РВК і раённыя арганізацыі, што за парушэнне гэтай пастановы да іх будуць прыняты суровыя меры ўзыскання.

Старшыня РВК *Новікаў.*

Сакратар *Глазко.*

---

## Пастанова

### Прэзідыума Лоеўскага РВК

*ад 13/III 1935 г.*

### „Аб становішчы первічнага ўчоту ў Лоеўскім, Ручаёўскім і Баршчоўскім с/с". (Інф. Інсп. Наргасучота тав. Боцяноўскага).

Адзначыць, што первічны ўчот у Лоеўскім м/с. зусім адсутнічае (форма № 2а, 2б і інш. абнаружаны звязанымі шпагатам і паложаны ў шафу незапоўненымі), а ў Ручаёўскім і Баршчоўскім с/с. заведзены няпоўнасцю, што гаворыць аб ігнарыраванні пастановы СНК БССР і Прэзідыума РВК ад 9/II 35 г. Выходзячы з чаго Прэзідыум РВК пастанаўляе:

1. За ігнарыраванне пастановы Ураду—аб первічным учоце с/с старшыні Лоеўскага м/с. тав. Нікіценку паставіць на від, а сакратару тав. Казеку аб'явіць вымову, папярэдзіўшы апошняга, што калі на працягу дэкады не будзе заведзен первічны ўчот па ўсім формам кніг справа будзе перадана следчым органам.

2. Прапанаваць старшыням і сакратарам Ручаёўскага і Баршчоўскага с/с на працягу 3-х дзён поўнасцю завесці первічны ўчот у с/с.

3. Папярэдзіць усіх астатніх старшынь і сакратароў с/с., што ў выпадку скажэння первічнага ўчота, альбо парушэння ўчотнай дысцыпліны да іх будуць прыняты больш суровыя меры.

4. Даручыць Інспектару Наргасучота тав. Бацяноўскаму праверыць выкананне с/с. гэтай пастановы і вынікі далажыць Прэзідыуму РВК.

Старшыня РВК *Новікаў.*

Сакратар РВК *Глазко.*

---

## Старшыням с/советаў

Згодна прадстаўленых інспектарам Наргасучота актаў праверкі становішча первічнай дакументацыі Бабовіцкага, Жаробінскага, Ст. Дзятлавіцкага, Міхалькоўскага і Улукаўскага с/с. устаноўлена, што тэрмін завядзення пагаспадарчых кніг па Дзятлавіцкаму і Улукаўскаму с/с. сарван.

Катэгарычна прапануецца, пад асабістую адказнасць сакратара Ст. Дзятлавіцкага с/с. т. т. Макарэнка М. П. і Чыстова Улукаўскага с/с. скончыць завядзенне ўсіх кніг первічнай дакументацыі на 1935 г. да .0/III 1935 г., адначасова папярэджваюцца старшыні і сакратары ўсіх астатніх сельсоветаў, што калі пры праверцы, якая будзе праводзіцца ў бліжэйшыя дні інспектарам Наргасучота, будуць выяўлены с/советы, якія не завялі зацверджанай СНК первічнай дакументацыі, асабіста да старшынь і сакратароў сельсоветаў—будуць прыняты меры суровага ўздзейнічання.

Інспектару НГУ, т. Флееру пасля 20/III інфармаваць мяне аб выкананні гэтай дырэктывы старшынямі і сакратарамі с/с.

Старшыня Гомельскага Горсовета *Антонаў.*

13/III 1935 г.

---

## Пастанова № 217

### Прэзідыума Віцебскага Гарадского Совета

*ад 14-га сакавіка 1935 г.*

### Аб становішчы прадстаўлення справаздачнасці інспектуры Наргасучота і ўчота ў с/с

Негледзячы на яскравае ўказанне пастановы СНК СССР і СНК БССР аб адказнасці за парушэнне тэрмінаў прадстаўлення ўчотна-справаздачных матэрыялаў, на неаднаразовыя ўказанні і пастаноў Горсовета, да гэтага часу з боку асобных прадпрыемств і арганізацый наглядаецца грубае і сістэматычнае

невыкананне гэтага, што падрывае работу сістэмы народнагаспадарчага ўчота і прадстаўлення мясцовым кіруючым органам своечасовых правільных даных.

У мэтах забеспячэння выканання дзяржаўнага плана ўчотна-статыстычных работ ва ўстаноўленыя тэрміны і правядзення рашучай барацьбы з бюракратычнымі ізврашчэннямі пастаноў партыі і ўрада па пытанню ўчота і адчотнасці, Прэзідыум Віцебскага Горсовета пастанаўляе:

1. За сістэматычнае непрадстаўленне ва ўстаноўленыя тэрміны справаздачнасці аштрафаваць глаўбуха Плодасушыльнага з-да т. Бейліна на 75 руб., бухгалтара сталовай ф-кі „Дзвіна" Якушова на 50 руб., бухгалтара сталовай Клары Цэткін т. Дземідава на 50 р.

2. За сістэматычнае спазненне прадстаўлення дадзеных выканання прамфінплана аштрафаваць на 50 руб. планавіка з-да „Чырвоны Металіст" тав. Лазоўскага, дырэктара з-да т. Сліазберга папярэдзіць, а дырэктарам тарнага камбіната т. Петрову, Чэрапічнага з-да № 1 т. Драпкіну вынесці вымову.

3. За невыкананне пастановы СНК БССР за № 211 аб рэгістрацыі буд-ва Начальніка буд-ва Даўжанскай біофабрыкі т. Іванова аштрафаваць на 75 руб.

4. Сакратара Віцебскага с/совета тав. Буткевіча за невыкананне пастановы СНК СССР № 2600 аб первічным учоце ў с/советах аштрафаваць на 50 руб.

5. Прэзідыум Віцебскага Горсовета рашуча папярэджвае ўсіх дырэктароў прадпрыемств, кіраўнікоў арганізацый, што за малейшае невыкананне дзяржаўных тэрмінаў учота і адчотнасці да вінаватых будуць прыняты самыя суровыя меры, таксама папярэджваюцца старшыні с/с., што ў выпадку неўвядзення первічнага ўчота ў с/с. на працягу дэкады, будуць прыняты меры прыцягнення да адказнасці згодна пастановы СНК СССР ад 20/XI-34 г. № 2600.

6. Даручыць інспектару наргасучота тав. Шметэру—кожны м-ц дакладваць аб становішчы ўчота.

7. Пастанову апублікаваць у друку.

Старшыня Горсовета *Аверын.*

Адказны сакратар *Калзунова.*

---

## Пастанова

## Прэзідыума Магілеўскага РВК ад 5/III-1935 года

### Аб выніках складання гадавых справаздач у калгасах раёна. (Дакл. т. Зумент—НГУ)

Заслухаўшы вынікі аб становішчы складання гадавых справаздач па калгасам, Прэзідыум РВК адзначае, што з маючыхся 230 калгасаў прадставілі гадавыя справаздачы толькі 163 кал-

гаса, а 67 калгасаў не прадставілі, дзякуючы таму, што рад старшынь калгасаў і рахункаводаў, як установлена праверкай Райза і НГУ, не займаюцца справай па арганізацыі і складанню гадавых справаздач і пусцілі гэту важнейшую гаспадарча-палітычную кампанію на самацёк, як напрыклад калгас „Ілліч-Піонер“ Машаніцкага с/с, Будзёны Мастоцкага с/с, „Перамога“ і Якаўлева, Шчэжарскага с/с, „Прагрэс“, Бялевіцкага с/с, „Воля“ і „Чырвоная Зорка“ Амхоўскага с/с, „Рассвет“ Рафалаўскага с/с, „Чырвоны Партызан“, Вендаражскага с/с, „Парыжская Комуна“ Дабрасневіцкага с/с і іншыя.

У мэтах знішчэння гэтага агіднага становішча і ліквідацыі прарыва гадавой справаздачнай кампаніі калгасаў на 1934 год, Прэзідыум РВК пастанаўляе:

1) За зрыў складання гадавых справаздач ва ўстаноўлены ўрадам тэрмін—15/I-35 г. за дрэнна-праведзеную інвентарызацыю, вынесці суровую вымову старшыням калгасаў і рахункаводам наступных калгасаў: „Ілліч-Піонер“ Машанацкага с/с, „Перамога“ Шчэжарскага с/с, „Рассвет“ Рафалаўскага с/с, „Прагрэс“ Бялевіцкага, і Будзённага Мастоцкага с/с.

2) Папярэдзіць старшынь і рахункаводаў калгасаў, незабяспечыўшых прадстаўлення ў Райза і МТС гадавых справаздач, што вінаватыя ў далейшым ігнараванні складання і прадстаўлення справаздач будуць прыцягнуты да суровай адказнасці.

3) Указаць старшыням с/с, што за складанне і своечасовае прадстаўленне гадавых справаздач калгасаў, на іх ускладаецца персанальная адказнасць.

Абавязаць старшынь с/советаў неадкладна прыняць неабходныя меры на месцы па заканчэнню складання гадавых справаздач у калгасах, шляхам мабілізацыі рахунковых работнікаў на дапамогу адстаючым у гэтым калгасам.

4) Прасіць РПС і ВОС'у мабілізаваць 67 рахунковых работнікаў горада і паслаць іх у адстаючыя калгасы для аказання дапамогі ў складанні гадавых справаздач і арганізацыі ўчота.

5) Загадчыку Райза, Дырэктару МТС і Інспектару НГУ прадставіць спіс лепшых старшынь і рахункаводаў для прэміравання за своечасовае і добраякаснае правядзенне інвентарызацыі і своечасовае прадстаўленне гадавых справаздач.

6) Указаць т. Ванчуку і Янчэўскаму, што яны не займаліся гэтай важнейшай справай і прапанаваць ім у бліжэйшыя дні закончыць складанне гадавых справаздач па ўсім калгасам раёна.

7) Гэту пастанову апублікаваць у друку.

---

# Абавязковая пастанова

## Прэзідыума Сіроцінскага Райвыканкому

*ад 7 сакавіка 1935 г.*

### „Аб абавязковай рэгістрацыі будаўніцтва і зноса будынкаў“

На падставе пастановы СНК БССР ад 25/II-33 г. № 211 Прэзідыум Сіроцінскага РВК пастанаўляе:

1. Абавязаць усе дзяржаўныя і грамадскія прадпрыемствы, ўстановы і арганізацыі, а таксама калгасы зарэгістраваць у інспектуре НГУ пры РВК да 20 сакавіка г. г.

а) нескончанае на 1/I-35 г. будаўніцтва.

б) скончанае ў 1934 г. будаўніцтва,

в) знесеныя ў 1934 г. будынкі для апалу, перабудовы і інш. патрэб.

2. Абавязаць усе дзяржаўныя, грамадскія прадпрыемствы, установы і арганізацыі, а таксама калгасы рэгістраваць у інспектуре НГУ пачатак і сканчэнне будаўніцтва і знос будынкаў вытвараемых у 1935 г.

3. Інструктаж і бланкі па рэгістрацыі будаўніцтва і зносу будынкаў атрымаць у інспектуре НГУ пры РВК.

4. Адказнасць за выкананне гэтай пастановы ўскладаецца на кіраўнікоў прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый і на старшынь калгасаў.

5. За парушэнне гэтай пастановы віноўныя падлягаюць штрафу ў адміністрацыйным парадку да 100 руб., альбо прымусовай працы да 15 дзён.

6. Нагляд за выкананнем гэтай пастановы ўскладаецца на сельсовецкую міліцыю і Наргасучот.

Старшыня РВК *Кабыш.*

ЧВА Сакратара РВК *Кляцко.*

---

# Выпіска

## з пратакола паседжання Прэзідыума Сіроцінскага РВК

*ад 7 сакавіка 1935 г.*

Слухалі: Інфармацыю Райінспектара НГУ аб правядзенні абследвання будаўніцтва закончанага і знесенага ў 1934 г. і рэгістрацыі будаўніцтва, пераходзячага на 1935 г., вытвараемага калгасамі, соўгасамі і іншымі прадпрыемствамі і арганізацыямі раёна.

Падкрэсліваючы вялікую гаспадарчую важнасць гэтай працы, Прэзідыум РВК пастанаўляе:

1. Абавязаць старшынь сельсоветаў вылучыць для правядзення абследвання будаўніцтва па аднаму лепшаму рахункаводу

калгасаў на сельсовет. Вылучаных рахункаводаў накіраваць у інспектуру НГУ за атрыманнем інструктажа і матэрыяла на 12 сакавіка гг.

2. Абавязаць заг. Райза, дырэктара МТС і дырэктара соўгаса „Лескавічы“ вылучыць для дапамогі інспектуре НГУ ў правядзенні гадавога абследвання будаўніцтва з Райза—2-х чалавек, МТС—2-х чалавек і соўгаса „Лескавічы“—1-го чалавека.

3. Абавязаць Інспектару НГУ закончыць абследванне будаўніцтва да 20 сакавіка гг. і ітогі будаўніцтва па раёну за 1934 г. далажыць Прэзідыуму РВК не пазней 25/III-35 года.

---

## Пастанова

### Прэзідыума Чавускага Райвыканкома

*ад 15/III-35 г.*

Слухалі: Інспектара НГУ тав. Мільцына аб становішчы прадстаўлення месячнай справаздачы прадпрыемствамі па ўчоту труда і заработнай платы і гадавога абследвання прадпрыемства.

Прэзідыум РВК адзначае зусім надапушчальнае з'явішча непрадстаўленне інспектару Наргасучота справаздачы па ўчоту труда і заработнай платы, бухгалтэрыяй МТС за снежань 1934 г. студзень, люты 35 г. Таксама недапушчальнае з'явішча з боку Кіраўніцтва Рэдакцыі газеты „Калгасны Сцяг“, якая негледзячы на неаднаразовыя папярэджанні да гэтага часу не прадставіла бланкаў гадавога абследвання друкарні, між тым тэрмін прадстаўлення быў вызначан 25/II-35 г.

Выходзячы з гэтага Прэзідыум РВК пастанаўляе:

За ігнарыраванне прадстаўлення справаздачы па ўчоту труда і заработнай платы бухгалтара МТС Марозава аштрафаваць на 50 руб.

Сакратара Рэдакцыі газеты „Калгасны Сцяг“ за ігнарыраванне прадстаўлення бланкаў гадавога абследвання друкарні аштрафаваць на 50 руб.

Прэзідыум РВК папярэджвае ўсе арганізацыі, якія павінны прадстаўляць гэтыя справаздачы, калі яны не прымуць мер да своечасовага прадстаўлення справаздач, да іх будуць прыняты больш суровыя меры спагнання.

Гэтую пастанову абвясціць у друку.

Старшыня РВК *Гурын.*

Сакратар *Скараход.*

---

# Загад 3

## па Інспектуры Наргасучоту Лоеўскага РВК

*ад 16/II-35 г.*

§ 1.

Вытворанай праверкай пакварта́льных адчотаў Рэдакцыі Райгазеты „Калгаснік“ выяўлена, што прадстаўляемыя адчоты агульнага тыражу №№ Райгазеты за 1-шы квартал 36.000, за другі кв. 75.000 экз. і за 3-ці квартал 174.000 з‘яўляецца несправідловымі, бо як устаноўлена, агульны тыраж у 1-м квартале складаў 49.360 экз., у 2-м квартале 52.320 экз. і ў 3-м квартале 57.950 экз.

Работнікам інспектуры Наргасучота ў прыватнасці інструктарам статыстыкам т. Лапкоўскім без дэталёвай праверкі гэтых адчотаў рабілася адсылка Сектару Культуры і Быта Кіраўніцтва НГУ БССР нават без майго ведама.

Такая адсылка адчотаў прадстаўляемых Рэдакцыяй газеты з‘яўляецца нічым іншым як грубай падтасоўкай лічбаў і прамым очкаўціра́цельствам.

§ 2.

Лічыць, што інструктар статыстык т. Лапкоўскі з работы зняты, а за штампаванне лічбаў без дэталёвай праверкі справу аб ім накіраваць следчым органам.

§ 3.

Прасіць следчыя органы за прамое очкаўціра́цельства прыцягнуць да адказнасці віноўных з Рэдакцыі газеты „Калгаснік“, прадстаўляемых адчотнасць.

§ 4.

Статыстыку т. Пінчуку, які пры адсылкі адчотаў за 4-ты квартал бачачы такое рэзкае ізмяненне супроць 3-га квартала, не паставіў у свядомасць мяне і без майго ведама адаслаў адчотнасць абвясціць вымову.

§ 5.

Давесці да ведама Сектару Культуры і Быта Кіраўніцтва НГУ БССР, што прадстаўленыя за 3 квартал 1934 г. адчоты Райгазеты лічыць несправідловымі, а лічыць справідловымі паказаныя у п. № 1.

§ 6.

Папярэджваю ўсіх работнікаў Інспектуры НГУ, што ў выпадку паўтарэння такіх з‘явішч будуць прыняты больш суровыя меры. Усякія адчоты і звесткі павінны быць дэталёва праверены і падпісаны мною.

Інспектар НГУ *Бацяноўскі.*

## Кіраўніцтву НГУ

Расонская інспектура НГУ поўнасцю прымае выклік Суражскай інспектуры і ўносіць наступныя дадаткі:

1. На лепшае правядзенне перапісу ўсіх гандлёвых арганізацый, добраякаснае запаўненне бланкаў і прадстаўленне раённай зводкі к 1 мая.

2. Поўны ахоп ўсіх аддзелаў і прадпрыемстваў па ўчоту зарплаты і труда.

3. На своечасовае складанне квартальнай справаздачнасці калгасных ферм і якасць разработачнай ленты.

4. На лепшае правядзенне дынамічнага абследвання гаспадарчага становішча калгасаў за 1933-34 год.

Старшыня нарады працаўнікаў інспектуры НГУ.
Расонскага раёна *Х. Цэйтлін.*

1/IV 1935 г.

---

## Агляд работы райінспектур

**(Па матэрыялам абследвання)**

### Стара-Дарожскі раён.

1. План работ за 1934 г. райінспектурай выканан, за выключэннем увядзення ў сельсоветах першічнага ўчота, які ў большасці сельсоветаў пастаўлен нездавальняюча, і кантрольнага ўчота ўстаноў нарасветы і паліт асветы.

2. Не наладжана своечасовае запаўненне кнігі „асноўные паказчыкі выканання плана па раёну і прадстаўленне кіруючым органам раёна штомесячных кан'юнктурных аглядаў.

3. Штат участковых інспектароў укамплектованы.

4. Праверка становішча першічнага ўчота ў сельсоветах праводзіцца не сістэматычна.

5. Ячэйкі ВОСУ не арганізаваны.

6. Райінспектура ўключылася ў конкурс на лепшую райінспектуру.

### Брагінскі раён.

1. План работ за 1934 г. райінспектурай выканан поўнасцю. За 1935 год маецца запазычанасць па абследаванню прамысловых прадпрыемств.

2. Справы на 1935 год заведзены і за 1934 год упарадкаваны.

3. Кніга асноўных паказчыкаў выканання плана па раёну не вядзецца і кан'юнктурныя агляды не складаюцца.

4. Кнігі першічнага ўчота раздадзены сельсоветам у студзені месяцы г.г. і быў праведзен інструктаж сакратароў і рахункаводаў сельсоветаў.

Праверкай становішча першічнага ўчота ў сельсоветах і калгасах райінспектура не займалася.

5. Райінспектурай не наладжан учот і праверка работы ўчастковых інспектароў.

Працдысцыпліна сярод участковых інспектароў вельмі слабая.

6. Ячэйкі ВОСУ не арганізаваны.

7. Райінспектура не ўключылася ў конкурс на лепшую райінспектуру.

## Віцебскі раён.

1. План работ за 1934 год райінспектурай не выканан поўнасцю.

2. Кнігамі первічнага ўчота сельсоветы забяспечаны, але-ж інструкцыйная нарада работнікаў сельсоветаў не была праведзена да 15 лютага г.г.

Сістэматычная праверка первічнага ўчота ў сельсоветах не наладжана. У Елагінскім і Велікалечанскім сельсоветах первічны ўчот не заведзен поўнасцю.

3. Кніга „асноўныя паказчыкі выканання плана па раёну“ не запаўняецца своечасова і поўнасцю, але-ж кан'юнктура па прамысловасці райінспектурай складаецца і прадстаўляецца кіруючым органам раёна.

4. Штат райінспектуры і ўчастковых інспектароў укамплектаваны.

5. Работа па лініі ВОСУ вядзецца слаба. Ячэйкі ВОСУ на прадпрыемствах і ў калгасах не арганізаваны.

## Аршанскі раён.

1. Кнігамі первічнага ўчота сельсоветы забяспечаны ў снежні месяцы; праведзен інструктаж работнікаў сельсоветаў.

Праверка первічнага сельсовецкага ўчота пастаўлена ў інспектуры добра; участковымі інспектарамі праверены ўсе сельсоветы.

2. Кніга асноўных паказчыкаў выканання плана па раёну заведзены і наладжана складанне кан'юнктурных аглядаў для раённых арганізацый.

3. Штат раённай і ўчастковай інспектуры ўкамплектаваны поўнасцю. Нездавальняюча пастаўлена справа тэхвучобы, рэгулярныя заняткі па азбуке статыстыкі не арганізаваны. Палітучоба праводзіцца.

4. Участковымі інспектарамі праведзена значная работа па арганізацыі ячэек ВОСУ у калгасах і сельсоветах. Аднак, кіраўніцтва работай гэтых ячэек не наладжана, бо да гэтага часу не арганізавана яшчэ Райбюро ВОСУ.

---

## III. УЧАСТКОВАЯ ІНСПЕКТУРА І ЯЕ РАБОТА

### Усім раённым і ўчастковым інспектарам наргас-учота.

Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР устанаўляе наступны план работы ўчастковых інспектароў на май, чэрвень і ліпень месяцы 1935 г.:

1. Праверка пастаноўкі первічнага ўчота і справаздачнасці па зацверджаным формам ва ўсіх сельсоветах і калгасах свайго ўчастка (абавязкова дабіцца таго, каб кнігі ф. № 1, 2а, 2б, 3 былі заведзены на 1935 г. ва ўсіх сельсоветах, правядзенне інструктажа работнікаў сельсоветаў і калгасаў па пытанням учота)—з 1/V да 1/VI.

2. Праверка хода і пастаноўкі ўчота і справаздачнасці веснавой пасеўнай кампаніі і падрыхтоўкі да ўборачнай кампаніі ў сельсоветах і калгасах—з 1/V да 15/VII.

3. Устанаўленне колькасці жывёлы па чэрвеньскаму падатковаму ўчоту і правядзенне кантрольных абходаў—з 1/VI да 1/VII.

4. Квартальны ўчот прадукцыі жывёлагадоўлі па калгасным таварным фермам за 2-гі квартал 1935 г. (збор картак і кантроль іх—з 1/VII да 10/VII.

5. Правядзенне дынамічнага абследвання гаспадарчага становішча калгасаў за 1933-34 гг. (устанаўленне сеткі, запаўненне бланкаў і кантроль)—з 1/V да 1/VI.

6. Збор і праверка матэрыялаў ад сельсоветаў, калгасаў, соўгасаў, коопгасаў, ОРС'аў аб пасеўных плошчах 1935 г.—з 1/VI да 15/VII.

7. Збор даных аб відах на ўраджай па збожжавым і тэхнічным культурам—май—ліпень.

8. Вымярэнне ўраджаю на карню збожжавых культур—ліпень.

9. Нагляд за бягучай рэгістрацыяй аб'ектаў будаўніцтва—май—ліпень.

10. Нагляд за своечасовай адсылкай сельсоветамі другіх экземпляраў—запісаў актаў грамадзянскага становішча (па Загсу) ў райаддзяленне НКУсправ—май—ліпень.

11. Збор і праверка матэрыялаў ад школ па адначасоваму выбарачнаму абследванню зарплаты ва ўстановах асветы—май.

12. Збор і праверка картак па бягучаму ўчоту колькасці персаналу і зарплаты ў цэнзавай прамысловасці, будаўніцтве, соўгасах і МТС (штомесячна), а таксама па ўстановам і прадпрыемствам усіх ведамств (за квартал) май—ліпень.

13. Нагляд за своечасовым складаннем і прадстаўленнем у Райана справаздач па школам дарослых і школам усенаўча—май—ліпень.

14. Арганізацыя ячэек ВОСУ і кантрольных пастоў у сельсоветах, калгасах, соўгасах і на прадпрыемствах—май—ліпень.

15. Вядзенне дноўніка сваей штодзённай работы па форме, якая пры гэтым далучаецца—май—ліпень.

Аб выніках кожнай праверкі ўчастковы інспектар абавязкова павінен скласці акт і адзначыць у сваім дноўніку. У выпадку неабходнасці прыцягнення асоб да адказнасці за парушэнне правіл учота і справаздачнасці, участковы інспектар перадае адзін экземпляр акта райінспектару, які ставіць пытанне на прэзідыуме РВК альбо накіроўвае справу ў пракуратуру.

Райінспектарам неабходна заслухоўваць перыядычна інфармацыі ўчастковых інспектароў аб выкананні імі вызначаных па плану работ, а таксама практыкаваць праверку работы ўчастковых інспектароў на месцы ў сельсоветах і калгасах. Таксама райінспектарам неабходна сачыць за тым, каб участковыя інспектары абавязкова вялі дноўнік сваей работы.

Штомесячна райінспектар паведамляе ў КНГУ БССР кароткую характарыстыку аб рабоце кожнага ўчасковага інспектара.

Начальнік КНГУ БССР *Владзімірскі.*

Начальнік Учотнай Інспекцыі *Магідаў.*

*Дадатак.*

**Дноўнік участковага інспектара.**

| Месяц і чысло | Змест праведзенай работы | Подпіс адказн. асобы устан. (с/с. калг.) | Подпіс райінспектара аб праверцы |
|---|---|---|---|
| | | | |

## Работа ўчастковых інспектароў

### Тав. Жыхараў, (участковы інспектар Рэчыцкага раёна)

Пачатак маей работы на ўчастку саўпаў з правядзеннем перапісу жывёлы. Атрымаўшы добры інструктаж ад райінспектара, я накіраваўся на свой участак. Па 2 сельсоветам: Заспенскаму і Семенаўскаму перапіс жывёлы быў пачат несвоечасова па віне настаўніка т. Петухова (па Заспенскаму с/с) і старшыні Семенаўскага с/с т. Вертліба. Аб гэтым было паведамлена райінспектуры і апошняя справу Петухова перадала пракуратуры. Настаўнік Петухоў з работы быў знят, а справа Вертліба застаецца без вынікаў.

Пасля правядзення перапісу жывёлы я заняўся праверкай пастаноўкі первічнага ўчота ў сельсоветах майго ўчастка. Першы абход 9 сельсоветаў мною быў зроблен у лютым месяцы спецыяльна для інструктажа і праверкі забеспячэння сельсоветаў кнігамі і формамі. Аказалася, што кнігамі па форме 1, 2-а, 2-б і 3 сельсоветы забяспечаны, але-ж кнігі не запаўняліся належным чынам. Таксама было высветлена, што бланкамі для справаздачнасці сельсоветы нэ забяспечаны. Капаньскі і Арцюкоўскі сельсоветы зусім не прадстаўлялі справаздачнасці. На сакра-

тара Арцюкоўскага сельсовета Зіноўева справа была перададзена ў суд, які разабраўшы гэтую справу прыгаварыў Зіноўева на 2 гады пазбаўлення волі.

У лютым месяцы на прэзідыуме РВК было пастаўлена пытанне адносна первічнага ўчота ў сельсоветах. Прэзідыум РВК абавязаў усіх старшынь сельсоветаў завесці да 15 сакавіка г.г. кнігі первічнага ўчота. Негледзячы на гэта некаторыя сельсоветы, як Семенаўскі, Арцюкоўскі, Жмураўскі і зараз адстаюць з увядзеннем первічнага ўчота (кнігі первічнага ўчота запоўнены часткова).

Пры праверцы пастаноўкі ўчота ў калгасах выяўлена, што з 25 калгасаў толькі ў 5 калгасах здавальняюча заведзен учот на 1935 г. Наглядаецца недахоп рахункаводаў для калгасаў адпаведнай кваліфікацыі. Неабходна ваздзейнічаць на Райза і МТС каб імі былі тэрмінова прыняты ўсе меры да ўпарадкавання ўчота і справаздачнасці ў калгасах.

Пры абследванні сельсоветаў мною выяўлена, што кантора Заготжывёлы нерэгулярна дасылала квіткі на здатчыкаў мяса, а калі нават і дасылала, то карыстацца гэтымі квіткамі не было магчымасці. Аб гэтым я паведаміў райінспектуру для прыцягнення да адказнасці работнікаў канторы Заготжывёлы за бюракратычныя адносіны ў справе дасылкі ў сельсоветы квіткоў.

Лічу, што адставанне ў справе пастаноўкі ўчота па сваім участку мне ўдасцца ліквідаваць у бліжэйшы час і дабіцца 100% запаўнення кніг первічнага ўчота ва ўсіх сельсоветах.

**Тав. Галубовіч, (участковы інспектар Капыльскага раёна)**

За кароткі час працы ўчастковай інспектуры ўжо маюцца дасягненні ў справе ўчота. Наша праца заключаецца ў тым, каб добра паставіць работу па ўчоту і справаздачнасці ў сельсоветах, калгасах і іншых арганізацыях. Аднак, гэта работа яшчэ недастаткова пастаўлена па некаторым галінам. Пры праверцы сельсоветаў і калгасаў былі такія выпадкі, калі ў кнігах первічнага ўчота не адзначаны поўнасцю выкананне планаў па пастаўкам, у кнігах пратаколаў вырваны старонкі, а па калгасам наглядаліся выпадкі неправільнага ўчота працадзён, прадуктаў і г. д. У мэтах знішчэння паказаных дэфектаў участковым інспектарам неабходна звярнуць асаблівую ўвагу на пастаноўку ўчота і справаздачнасці ў сельсоветах і калгасах. Па майму ўчастку арганізавана 2 ячэйкі ВОСУ ў Пукаўскім і Веляшынскім сельсоветах. Да 1 сакавіка г.г. мною праверацы ўсе сельсоветы свайго ўчастка.

Лічу, што ўсім участковым інспектарам неабходна завесці ўчот сваей штодзённай работы.

---

Рэдкалегія: *Арцямкоў*, *Голант*, *Магідаў*

Адказны рэдактар *В. Магідаў*.



